у вершах набліжаецца да мэтру. Пераважная большасьць вершаў напісана амаль чыстым ямбам і анапэстам. У строфіцы пераважае чатырохрадкоўе, часам двохрадкоўе, радзей—іншыя віды.

Перад В. Мараковым задача—увесьці іншыя, сьветлыя мотывы ў сваю поэзію, бо па сіле таленавітасьці, творчасьць яго падае вялікія надзеі.

**Ант. Адамовіч.**

АД РЭДАКЦЫІ. Гэтыя рэцэнзіі дапаўняюць адна адну. У першай найбольш даецца ацэнка мастацкасьці поэзіі Валерыя Маракова, у другой ацэнка зьместу яе.

---

Першыя тры нумары „Чырвонага Сейбіту“ выклікалі вялікую зацікаўленасьць крытыкі, як на старонках „Звезды“, „Савецкай Беларусі“, так і розных часопісяй і акруговых газэт. Як і належыць быць, больш за усё крытыкі спыніліся на адмоўных баках.

Каб стала адказаць усім крытыкам патрэбна было-б заняць гэтым большую частку „Чырвонага Сейбіту“. Таму адказваем коратка:

Рэдакцыя „Чырвонага Сейбіту“ згаджецца з думкамі „читателя“ у № 280 „Звезды“, згаджаецца з крытыкамі, што хібы й недахваты ў працы ёсьць. Разам з тым, рэдакцыя рашуча протэстуе супроць імкненьня некаторых крытыкаў (напр. Алёша ў „Сав. Беларусі“) будаваць свае фэльетоны на тэхнічных памылках, „за шчэпку знаходзіць прычэпку“ і на імкненьні знаходзіць памылкі там, дзе іх няма.

Правільная крытыка дапамагла й дапамагае знаходзіць правільную лінію ў працы.

**Рэдакцыя „Чырвонага Сейбіту“.**

---

## Папраўкі.

У № 3 „Ч. Сейбіту“, у артыкуле Р. Шукевіча-Трацьцякова на стар. 5, у 9-м радку пасьля слова „Адысея“ трэба чытаць „сучасныя ім эпохі:

У тым-жа нумары, у час вёрсткі, па тэхнічных умовах не ўвашоў у нумар кавалак набору артыкулу А. Бабарэкі, ад чаго ў некаторых мясцох артыкулу зьмяўніўся сэнс. Таксама пры вёрстцы не ўвашла ўвага рэдакцыі, што артыкул Бабарэкі зьмяшчаецца як дыскусыйны.

## Паштовая скрынка.

**Блёкату, Шылаву, Чыгіру К., Драздоўскаму, Ул Адамовічу, Палыну, Л Масьціцкаму П. Бар.** Вершы ня пойдуць.

**Савіну.** Апавяданьне «Ноччу» ня пойдзе. Слаба распрацованы сюжэт.



**У мястэчку Смалявічы будуецца новы Нардом.** (Па фотографіі селькора Нортмана)

Галоўлітбел № 22755

Адказны рэдактар **Шукевіч-Трацьцякоў.**





*Няхай жыве саюз рабочых і сялян*

# ЧЫРВОНЫ СЕЙБІТ

двухтыднёвы літаратурна-мастацкі дадатак да „Беларускай Вёскі“

№ 5 30-га сьнежня 1926 г.



## З І М А

Пятро Глебка

Зіма. Зіма... Сьнягі, завеі...
Дарога звонкая, як сталь.
Бярозы у шэрані сівеюць,
Палі бялеюць як паркаль.

Эх, люба раніцаю звонкай
Запрэгчы сівага каня,
І мчацца ў даль на перагонкі,
Дзе ціха сьцелецца туман.

А лес стаіць маўклівы ціха.
Вятры ня гойдаюць гальля...

. . . . . . . . .

Зіма, Зіма... Быў цьвеце ліпа.
У сьняжынках вольная зямля.

Эх, люба ў вечары ў полі,
Дзе месяц пыл ацярушцыў,
Драмаць на санях і павольна
Сьпяваць бяз болі у душы.

А думкі мкнуць, і мчацца, гаснуць
Зьвіняць далёка бомы дзесь...
Так многа радасьці і шчасьця,—
Здаецца хмарай белы лес.

Прыедзеш з лесу на зьмярканьні,
Сяло акутвае дым...
Люблю зіму, каня і сані,
І лес, і поле, і сады.

А больш люблю сяло ў змроку,
Калі запальваюць агні:
Кладзецца сьцень на сьнег далёка,
Зьнікае сум, як нікнуць дні.

Бярозы ў шэраньні сівеюць,
Палі бялеюць, як паркаль.
Зіма. Зіма... Сьнягі, завеі...
Дарога звонкая, як сталь.



Прышла зіма.



Па фотографії Дашкевіча.

# Падарожнае

**Крапіва**

Трррр! трррр! трррр!

Чэк, чэк. Па-анёс—толькі вітрыны мільгаюць.

Эх, слаўна! Куды твой конь проці аўтамабіля. Тут табе перш за ўсё пугі ня трэба. А гэта многа значыць: рэжым экономіі дый фурману ня трэба стаяць на колінках у перадку і шалыгаць каню і пад чэрава і пад лыткі, выбіраючы больш балючае месца.

Падругое—аўтамабіль не прыпыняецца праз кожныя дзесяць крокаў нібы за маленькаю патрэбаю, як гэта любяць рабіць ляныя коні, ды не аглядаецца назад, каб паглядзецць, які ў хурмана настрой і як пуга служыць.

Патрэйцяе—аўтамабіль ня пудзіцца. Няхай табе сто паяздоў зараз ідзе, няхай шыпіць, няхай гудзе—ён не рване і не панясе цябе бяз памяці па вуліцы і не расквасіць табе галаву аб вугал або аб слуп.

Чацьвёртае — аўтамабіль ніколі ня ржэ, калі ты яму есьці ня даў. І хоць ты яму месяц не давай, дык ня здохне, а будзе сабе ціханька стаяць.

Ды ці мала аўтамабіль мае пераваг у параўнаньні з канём ці з кабылаю; ніколі, напрыклад, аўтамабілі ня брыкаюцца, калі зьбяруцца некалькі разам, ніколі ў яго жывот не забаліць, ніколі ён да жарабца не захоча, ніколі жарэбным ня ходзіць і ня трэба асьцярагацца, каб не перасіліць; ніколі ён табе ў чужую канюшыну, віку, авёс, або капусту не ўваб'ецца і ня трэба за яго з суседзямі грызьціся ды па судох цягацца за патраву.

Эх, слаўная жывёліна!—гэта-ж яшчэ мо' паўгадзіны толькі й едзем, а ўжо вёрст дванаццаць укацілі. Каб каня з гэтакаю шпаркасьцю прагнаў, дык ён бы і захропся і засопся і пад хамутом мокра ў яго было; а каб на каня села 18 чалавек, гэтак, як на аўтобус, дык ён-бы й з месца не крануў.

Але вось—тырк! тырк і стаў. Яшчэ разоў са два папяўся—нічога, не бярэ.

Нічога ня зробіш, трэба злазіць. Ды у самай-жа гразі, ліха яму.

А можа папхнём трохі.—А, ну—падлапніся!

Пнуцца, крэхчуць мужчын з дванаццаць, пхнуць яму ў зад, а ён і вухам не вядзе. Вось зараза жывёліна! Шофэр кажа, што некая там трубка ці мутэрка згубілася і прыдзецца гадзін са дзьве прастаяць, покуль ён зноў усё наладзіць.

Гадзін са дзьве! На якое-ж ліха стаяць, калі можна сесьці.

Добра, што пагутарыць ёсьць з кім селянін коні пасе. А ў аўтобусе такая публіка надзіманая едзе: сядзяць губы пазамыльваўшы — хоць-бы табе слова. Сапраўдныя ангельцы.

Дзень добры, дзядзька!

Добры дзень!

Што, калі пасеш?

Але, пасу.

— А на што ты іх пасеш?

— Бо яны-ж есьці хочуць.

А, на што ты іх наогул трымаеш?

— Што- я жонку запрагу ці што?

— А ты аўтамабіль купі,—як паглядзеў, дык гэта жывёліна лепшая за каня, выгаднейшая.

— Для вас можа яно й так, а ў нашым палажэньні яно не падходзіць.

— А чаму?

— Ды вось чаму: перш за ўсё, як ты яго купіш? Ён-жа некалькі тысяч каштуе, а я тысячы рублёў і ў руках ня трымаў і ў сьне ня бачыў.

Другое—я коні вось вывеў на паплавец яны й шчыплюць. А калі ў хляве, дык я ім сена залажу, сечкі замяшаю, ім больш нічога і ня трэба, а аўтамабіль ты на пашу ня выганеш і сечкі ён ня будзе есьці, падавай яму бэнзін. А бэнзін грошы каштуе. А грошай у мяне — кот наплакаў; зноў-жа —вось я кабылу трымаю, дык яна мне што год па жарабяці водзіць, праз гадоў два-тры глядзіш і запрагаць можна, а аўтамабіль ніякага прыплоду не дае і даваць ня думае. Таксама са мною ніколі не здаралася, каб у каня якая-небудзь труба адкруцілася, ці мутэрка згубілася і я праз гэта ніколі не стаяў тры гадзіны на дарозе так, як вы вось цяпер.

А гною хіба ваш аўтамабіль настоіць, хоць воз за зіму? А мая кабыла, хоць здэцца не вялікая штука, а патом вазоў дзесяць за зіму дасьць.



Зноў-жа на кабыле, калі дома я, то еду я; няма мяне—едзе сын, а часам і жонка.

І ўсе ўмеюць кіраваць ёю і ўсіх яна слухае. А тут—купіў ты аўтамабіль, то купляй разам і хурмана, а сам возьмешся кіраваць, дык яна або саўсім ня пойдзе, а не—паішчыць сябе, куды сама захоча, пакуль ня будзе капут і ёй і табе разам з ею.

Дык вось чаму гэта жывёліна не падходзіць у нашым палажэньні.

Як вылажыў мне дзядзька ўсё гэта, дык мяне і думкі ўзялі. Думаў я думаў... Часу для гэтага ў мяне хапіла, бо аўтобус яшчэ ня скора пашоў. Дык вось думаў я думаў, а калі селі зноў у аўтобус, дык я й расказаў свайму суседу, надзіманаму „ангельцу“ ўсё, што я думаў пра аўтамабіль і што сказаў мне наконт яго дзядзька. Мой сусед падумаў трохі дый кажа.

Так, тут пэўная няўвязка ёсьць. Нам трэба ўдасканаліць або каня, або аўтамабіль. Разумеецца мы маглі-б загадаць нашым конскім заводам, каб яны выпускалі ўдасканаленых коняй, напрыклад, з маторам: трэба табе куды-небудзь не далека—можаш на траве ехаць, або на сечцы, а калі трэба далёка дый скора надта, дык наліў бэнзіну, закруціў з заду дый няхай пухкае... Але ў наш век індустрыі, памойму лепш трэба ўдасканаліць аўтамабіль. Для гэтага трэба пабудаваць такі аўтамабіль, каб ён траву і сечку еў.

А калі будзе сечку есьці, то нябось нідзе ня дзенецца—і гной будзе настойваць.

А яшчэ, калі ўставіць яму такую прыладу, каб ён і аўтамабілянят раджаў, дык тады нічога больш і ня трэба, тады й кожны селянін яго ахвотна купіць, бо яны шмат танейшыя будуць. Памойму гэта саўсім ня цяжка зрабіць пры нашых дасягненьнях у тэхніцы.

Адказ майго суседа мяне ўзрадаваў і заспакоіў. Я аддаўся марам і мая фантазія стала далей разьвіваць плян „ангельца“. Праз некалькі хвілін у мяне самога ўжо быў прыладжан з-заду матор і я са шпаркасьцю кулі імчаўся з аднаго раёну ў другі, выконваючы свае інструктарскія абавязкі.

Тым больш няпрыемна было мне злазіць з аўтобуса і сваімі ўласнымі галёшамі чэрпаць местачковую гразь.

# Песьня

**Сяргэй Дарожны**

1

Як сказаць мне добрае, як сказаць, ці выпяяць,
Песьня празьвінела, на лугох цім'ян...
І такая радасная сьніцца зноў мне Прыпяць
І туман над берагам, шаўковы туман.

Думкі зноў чаўнамі паплылі у хвалях,
Каля тых узгоркаў, каля тых лясоў,
Дзе стаяла любая доўга, дзе стаяла
Залаты сьлядочак сёньня у пяскох.

Там зара здаецца занізьзю рабіны,
Што ліецца ў далі, ды па верасох.
І над полем дзень такі нязнана сіні
Быццам то дзяўчына з шоўкавай касой.

Сінія сасонкі сталі ля дарогі,
Колькі іх знаёмых мне і незнаёмых...
З песьняю так радасна залатыя ногі
Блытаць па дарозе, ад нязнанай стомы.

2

Часта раніцою срэбраныя сьлёзы
Бачу на каменьні й залатым пяску,
Хто іх тут насеяў сумны, ці цьвярозы,
Хто і скуль?

Сінім ўсплёскам вецьця мне ў адказ сасонкі:

Цалаваў іх месяц, цалаваў туман...
Ад таго так часта я гляджу на сонца,
На шляхі павітыя, за сівы курган.

Буду йсьці дарогаю, буду йсьці каменьнем,—
Шмат сьцяжынак ведаю простых і крывых,
Песьняю пасею словаў шчырых жменю
На палёх ружовых, на узвышшах тых.

З гэтакаю песьняй дні я сустракаю,
Як-жа змог інакшую я сюды прынесьці.
Выйму сваю душу белымі рукамі
І раздам на песьні, срэбраныя песьні.

# У сьнежных завеях

Пятро Глебка

— Но-о-о!—неяк ласкава гукае дзед на каня, шморгае павольна лейцамі. Конь, сыты і вёрткі, махне галавою, фыркне ноздрамі і ўзьняўшы высока ногі, цярэбіць імі шпарка і размашыста. Дзед, наставіўшы каўнер, з сівымі ад шэрані вусамі, усьміхаецца паціху і здаволена. Я гэта заўважаю скоса глянуўшы на яго, пасьля пераводжу погляд недзе ў даль сьнежную і роўную. Заходзіць сонца, расплываецца на сьнежных прасторах, лунсовую пазалотаю. І чамусьці здаецца гэты апошні сонечны ўсхліп, дзедавай усьмешкаю ціхаю і вясёлаю. Тады думкі бягуць далёка, трацяцца, зноў зьяўляюцца, а вочы пазіраюць усё таксама-ж напружана, нярухома, толькі гэты погляд безсьвядомы, няясны. Нейкія цьмяныя дрымоты ахопліваюць; і вочы і думкі трацяць яснасьць, праўдзівасьць. Рыпіць, скаголіць пад палазамі сьнег, а здаецца гэта рыпеньне ціхаю песьняю, гулам верацяна, але ня тым рыпеньнем, якое на яву неяк скрабе сэрца, нутро...

Я яшчэ смутна ўяўляю, што гэта мы з дзедам едзем з мястэчка ў вёску. Уяўляю, што дзед прыехаў знарок у мястэчка, каб забраць мяне з сямёхгодкі да хаты, на вакацыі. Хутка і гэта ўяўленьне зьнікае дзесьці ў глыбіні істоты і застаецца толькі нявыразнасьць нейкая—сон.

— Но-о-о!—Зноў гукае дзед на каня: эх, ты,—разьлянаваўся... Дзед нахіляецца ў мой бок, каб дастаць з кішэні люльку, таўхае наўмысьля мяне ў плячо і я прачынаюся...

— Ногі адрантвелі, шчымяць...
— І-і-іх...—дрыжу міжвольна.
— Што?..Здубянеў?—пытаецца дзед.
— Халаднавата—адказваю.
— Гэ-э-э, гэта яшчэ не мароз. Во-о былі зімы, а завеі, завеі!.. Цяпер такіх ня бывае... Выцярпелі і мае косьці немала гэтых сьцюж...

— Паганяйце, заўважаю дзеду,—бо гэтак мы і да поўначы не заедзем.

— Ты малы, а порсткі. Мала ведаеш жывёлу. А жывёла таксама разумее.

Я прадугадваю, што дзед зараз распачне нейкае апавяданьне. Адыходзіць злосьць, што ён не паганяе. Павольна цягнецца, расьцілаецца змрок. Я заплюшчваю вочы, прыслухоўваюся...

Дзед пачынае, як і звычайна:

— Даўно гэта было У старыя часы было. Была зіма, толькі не такая як сёлета, а лютая і сьцюдзёная.

Спахмурнела ўвечары неба—мяцеліца на ноч зьбіралася.

Выяджаў у гэты вечар чалавек у дарогу. Трывожныя і непакойныя думкі ахоплівалі яго. Не хацелася, а трэба было ехаць, каб зарабіць кусок хлеба.

Цяжка, сынку, здабываць хлеб, але горш яго есьці з чужых рук Чужы хлеб горкі, бо сьлязьмі і потам паліты. І гэта ўсё я сам па сабе ведаю, з панскіх часоў.

Дык вось і паехаў чалавек у дарогу. А праехаўшы вёрст колькі, маркота яго ахапіла. А па дарозе карчма стаяла. Ня ведаеш ты, унучак, гэтых карчмаў, няхай ня ведаць іх і нікому. Трацілі людзі ўсё ў гэтых карчмах; трацілі за радасьць вокамгненьня, за радасьць бурную і адважную. Праходзіла радасьць, зьнікала, як сьнег вясновы, і заставалася на сэрцы нуда атрутная. Тады ізноў ішлі ў карчму, каб затапіць тугу. Так дні і ночы прападалі людзі ў карчме, а радасьці ня зналі.

Зашоў чалавек у карчму па дарозе, а каня на дварэ паставіў і пачалася тады навальніца...

Стаяў конь каля карчмы, драмаў і нізка галаву хіліў. Пасьля прачынаўся, шавяліў вушамі, пераступаў з нагі на нагу, ды зноў драмаў. А гаспадар у гэты час сядзеў у карчме, піў гарэлку, піва і таксама драмаў. Хацелася чалавеку гутарыць, раскрыць сваю душу і ён вёў п'яную гутарку, нямаведама з кім вёў... Пасьля заснуў на стале, а прачнуўся тады, калі гаспадар карчмы пабудзіў.

Стаяў увесь час конь гняды на дварэ, стаяў і дрыжаў чакаючы гаспадара. Вышаў гаспадар на двор, զаваліўся на сані, сьцебануў раз-другі гнядога пугаю...

— Но-о-оў—гукае як з прасонку чалавек з саней і сьцёбае, бязьлітасна сьцёбае каня пугаю. Пасьля пакінуў сьцёбаць, толькі аднастайна раз-по-раз гукае, нокае. Голас яго застывае, прападае.



Шуміць мяцеліца, вые вецер, рыпіць аднастайна пад палазамі сьнег, і здаецца гэты скрып калыханкаю, што сьпявае маці.

Ня чуе чалавек холаду, сьцюжы,—цёпла яму ад гэтай дзікай песьні сьнежных завей, цёпла і лагодна.

Так і заўсёды бывае.

Едзе на санях, мерзнуць ногі, дубянее ўсё цела, а ўнутры разьліваецца нейкая цяплынь.

Думкі невыразныя, заблытаныя ахутваюць галаву, цягнуцца доўгімі пасмамі, рыплівымі і аднастайнымі, як гэты сьнег пад палазамі.

Худы конь ступае марудна, цяжка, загразаючы ў гурбах сьнегу. Хістаецца слабы і нядужы, хістаецца ад сьцюжы, ад ветру, хістаецца ад зморы.

Іншыя думкі ў каня, іншыя—больш выразныя, выпуклыя, імклівыя.

Гудзе, вые мяцеліца, цёмна ў дарозе, нудна і страшна.

І ўяўляецца цёплы хлеў, да пахучы мурог... Прыбаўляе кроку, загразае, падае ў сьнег, падымаецца, ізноў гразьне. Вось ён прыпыніўся, адхліпнуў, уздыхнуў цяжка і працяжна, напружыў усе сілы, ды зноў рвануўся ўперад, у даль.

А гаспадар застываў на возе, мармытаў праз сон, пасьля праз сон тпрукнуў. Гняды стаў, як укопаны. Згайдануўся чалавек і прачнуўся. Узьняў галаву, глянуў бяспрытомным поглядам... Безсьвядома зьлез на сьнег, зьлез і паваліўся. Здалося тады яму яшчэ цяплей, прыемней. Новыя, невыразныя, паблытаныя думкі заварушыліся спачатку больш шпарчэй, пасьля маруднэй, цішэй... зьніклі...

Стаяў Гняды, вастрыў вушамі, трывожна хроп, углядаўся ў сьнежныя завеі, чакаў гаспадара.

А гаспадар застываў, паміраў.

Трывожна хроп Гняды, трывожна дрыжэў ад сьцюжы, ад холаду, дрыжэў і хроп.

Ліпкі сьнег забяліў яго цела, закудзеліў грыву. Стылі ногі і курчыліся, а ён усё стаяў і чакаў і ўздыхаў.

Доўга стаяў Гняды.

Нарэшце як-бы зразумеў усё—азірнуўся, зарагатаў зычна і голасна ад роспачы. Глухі быў гэты рогат. Не прабіцца конскаму голасу скрозь сьнежныя завеі. Згінуў голас, толькі мяцеліца дзіка завыла.

Ні то страшна стала коню, ні то ад сьцюжы дрыжэлі старыя косьці. Узьняў Гняды галаву, узьняў ды зноў апусьціў... Напружыўся і стаў перабіраць здрантвелымі нагамі сьнег. Западаў глыбока ў гурбы, вылазіў, карабкаўся, зноў западаў.

Разгарэлася ад гэтага старое цела, ногі памлелі, агарнула нейкая амяга, цяжкая і балючая, нявыразная і сумная. Ступіў Гняды яшчэ крок, ступіў і зваліўся з дарогі. Заграз па вушы, заграз у сьнезе. Тады напружыў апошнія сілы, і рвануўся...

Нешта кальнула ў грудзі, пасьля цёпла і соладка разьлілося па целе. Прашоў яшчэ некалькі крокаў Гняды, спыніўся каля дрэва і застыў.

Выла мяцеліцца, лямантавала, галёкала. А дрэва стаяла маўкліва, не хісталася, толькі сьнег сыпаўся з яго, дробны і калючы.

Прытуліўся Гняды до дрэва.

І пачало здавацца каню, што ён у цёплым хляве на саломе, бо разьлілося па целе цяпло. Тады прылёг Гняды на сьнезе і так прыемна стала, лагодна... Ахапілі дрымоты імклівыя, заблытаныя і скрозь гэта ўсё: вясна, луг, зялёная трава...

Так і замёрз конь ля дрэва...

Вось, унучак, ты кажаш...

Дзед не дагаварыў, змоўк. Пасьля зноў прагаварыў:

Назаўтра каня знашлі ля дрэва, а чалавека вясною вымыла... Вось якія некалі былі завеі... Но-о!—Гукае дзед на каня і той шпарка цярэбіць нагамі, толькі сані сьвішчуць.

Галава напаўняецца думкамі, толькі ня суцэльнымі, а нейкімі ўрыўкамі. Я то ўяўляю чалавека слабога, зьмёршага, то дужага каня. Пасьля ўсё гэта зьліваецца ў нейкую масу, а з яе выплываюць завеі, сьнежныя, бясконцыя, маўклівыя і халодныя.

Я расплюшчываю вочы... Змрок ахапіў прасторы, а далёка пыліць сьняжынкамі, дробнымі як імгла, бялявы маладзік. Наўкола бялее роўны і гладкі абшар. Гэта-зіма і сьнежныя, пульхныя, бязьмежныя палі...

А сані рыпяць марозна і сьвішчуць..

# Маёй каханцы

**Якуб Колас**

Я пайду да яе, да каханкі маёй,
Каб ізноў яе голас пачуць.
Няхай думкі мае пабягуць чарадой,
Як чародкамі хмаркі плывуць.
І я волю ім дам дзе ім люба, ляцець,
Як ляталі бывала даўней.

Палячу з імі сам, буду песьні там пець,
Каб пачуць сваё шчасьце паўней.
Але я не скажу ей, як міла яна
І як люба мне з ёю пабыць,
Бо каханка мая, мая радасьць—Сасна,
Што пры лесе, як панна стаіць.

# З Рабіндраната Тагора*)

**Пераклад Якуба Коласа**

Шапнуў ён: „Мілая! ну, глянь хоць
разік, глянь!“
Яму з дакорам я прамовіла: „Адстань!“
Са мною ж ён астаўся!
За руку ўзяў мяне, ў вочы мне зірнуў.
„Пакінь!“ сказала я, а ён і не маргнуў
І толькі пасьміхаўся.
Да вуха мне прыпаў, крануўшыся
шчакі.

Абурана сказала я: „Ах, стыд які“—
І стыд яму ня стаўся!
Мне кветачкаю ўраз аздобіў валасы.
„Якая-ж, ну, карысьць ад гэтае красы?“
І тут ён не крануўся.
І, зьняўшы мой вянок, пашоў ад мяне
проч.
Я плачу, думаю аб ім і дзень і ноч—
Ах, мілы... каб вярнуўся!

*) Рабіндранат Тагор—вялікі бэнгальскі поэта.

# На ледзяной гітары

**Кляшторны**

З вішнёвых хмар на ледзяной гітары
Зара заплакала па сонечнай вясьне,
І быццам з вёснамі разьвеяныя мары
На успамін застылі на вакне.

Куды пашло,—куды ўсё уляцела,
Чаму загінула ня кінуўшы сьлядоў,
Чаму застыла ўсё—заледзянела
Ў туманнай шэрані асьнежаных палёў?...

Так і ў жыцьці—разьвеяныя вёсны
Туманам крыюцца ў завеях залатых,
І замярзаюць сонечныя вёслы
На паўпуці ў каралях ледзяных.

Ты гаварыла,—ты мне гаварыла:
—Наш просты шлях нязьвяжуць туманы,—
Што ты душу і сэрца падарыла
Ў шыпучы кубак сонечнай вясны.

Чаму так неба вычарнілі хмары,
Чаму згарэла месячная сінь,
Чаму, любімая, на ледзяной гітары
Ты адпяваеш сонечныя дні?

Чаму замерзьлі сонечныя вёслы
На паўпуці—ў каралях ледзяных,
Чаму—ружовыя разьветрыліся вёсны,
І нашы сьцежкі вяжуць туманы?..

З вішнёвых хмар—на ледзяной гітары
Зара заплакала па сонечнай вясьне,
І быццам з вёснамі разьвеяныя мары
На успамін застылі на вакне.

Менск, 1 лістапада, 1926 г.



# Сьцежкі

**Паўлюк Трус**

Халодны яр...
А на вазёрах веі...
Ў зыбучай шэрані
заснулі хутары...
А там сьнягі!
І ў сьнегавых завеях
да долу хіляцца
‘ля ставаў явары.

Люблю зіму!..
Калі цьвітуць нізіны,
цьвітуць у занізях,
як моладасьці дні!..
Калі ў сузорнасьці
асьнежныя каліны,—
маўчаць і журацца
ў марознай цішыні...

Калі ў палёх,
зьвіняць далека бомы,
а думы іскрамі
рассыплюцца ў цішы...
І ціха скоцяцца,
каб тайнай невядомай
ўжо дакрануцца струн.
зыбучых струн душы.

Зіма!.. Зіма!..
А на вазёрах веі.
Ў марознай шэрані
заснулі хутары.
Вакол сьнягі...
І ў сьнегавых завеях
да долу хіляцца
‘ля ставаў явары.

Стаю і думаю..
І ў ціхім задуменьні
гляджу ў вакно..
А бацька ‘ля мяне
схіліўся над сталом.
Цьвітуць на скронях сьцені
І вочы ветлыя
сьмяюцца як у сьне.

Сьмяецца зірк.
І ціхія усьмешкі
смугою сочацца
з-пад бацькавых брывей.
А там сьнягі...
І на асьнежных сьцежках
пялёсткі радасьці
застылі на траве.

А я маўчу...
Маўчу і наліваю
Кілішкі поўныя
халоднага віна...

І за здароў‘е бацькава
я першы падымаю;
і выпіваю ўсё
спакойна і да дна.

Бо знаю, тым
сябе не пакалечу,
калі я чаркаю
халоднага віна,
Ад сэрца шчырага
вітаў адну сустрэчу,—
І мо‘ апошнюю,
каб доўга ўспамінаць!..

Плылі гады..
А за гадамі скора
маленства сьветлае
праходзіла, як дзень.
І так ня верыцца!
Было здаецца ўчора?
А ўжо сягоньня ты
настаўнік і студэнт.

Сягоньня Менск...
А заўтра Днепр і Гомель.
А там—прастор!
І ў кветах Беларусь.
Таму ў імклівасьці
і смутак не агорне!..
Ніхто ня здоляе
каб пагасіць Зару!. . . .
. . . . . . . . . . . .

Была зіма...
Цьвілі сады ў сьнезе.
І ў кволай шэрані
бары хіліў мароз.
Ў такую раніцу
за вёрст 15 дзесяць,—
мяне мой родны брат
на станцыю адвёз.

А бацька ня прышоў,
бо быў зусім пры сьмерці.
І толькі любая
адна... адна.. яна,
сястрыца родная,
хацела сьлёзы ўцерці,—
калі праводзіла
мяне аж да млына.

Пасьля таго,
мне пішуць праз нядзелю

Што бацька правіцца...
(хоць моцна аслабеў),
Але ачуньвае...
Ўстае адзін з пасьцелі
І скора думае
прыехаць да цябе.

Татуля!.. Любы мой!..
Даўно цябе чакаю.
хоць на адзін дзянёк
прыедзь ты да мяне!..
цябе я раненька
на станцыі спаткаю,
Як будуць спаць яшчэ
гаі ў глыбокім сьне.

Даруй за ўсё!..
Даруй мне за дакоры!..
Татуля!.. Родны мой...
Мой любы, дарагі!..
Прыедзь... Сустрэнемся
і шчыра пагаворым
бо можа больш калі
ці зыдуцца шляхі?

Бо можа больш
ці стрэнемся да болю?
Ты так за год
зьмяніўся, пастарэў...
Таму мне хочацца
пабачыцца з табою...
Пакуль ня ўсьпелі дні,
пагаснуць... дагарэць...

І вось цяпер,
я радасьць наліваю
ў кілішкі поўныя
халоднага віна
і за здароўе бацькава
Я першы падымаю;
і выпіваю ўсё
спакойна і да дна...

Сьмяецца зірк...
Цьвітуць у сьнезе скроні
жывых і звонкіх струн,
Ня моўкне перабор.
А там у сьне...
на сьнегавыя клёны
журбою сочацца
усьмешкі сініх зор.

Усьмешкі сыплюцца...
Усьмешкі на прысадах
апалі шэраньню,
сплялі жывы вянок.
Сягоньня сьмех і сум.
сягоньня сьмех і радасьць.
І ў чарках пеніцца
Халоднае віно...

. . . . . .

Мы разьвітаемся.
І я сваёю сьцежкай
пайду у сьвет...
І ў золкасьці завей
Ня будзе роспачы!..
Мяне адно суцешыць
Што будзе радасьць скрозь
цьвісьці і пунсавець!..

Сягоньня Менск...
А заўтра Днепр і Гомель.
А там—прастор!
І ў кветах Беларусь.
Таму ў імклівасьці
І смутак не агорне!
Ніхто ня здоляе,
каб пагасіць Зору!..

## На межах дзедаўскіх...

**Беразоўскі**

За вёскай ў далях вольных поля
Дзе ўзьмежкі шоўкам парасьлі,
Стаяць дуплістыя таполі,
Забытай прошласьці сыны.

Стаяць дуплістыя таполі . . . . . .
І соньню журацца лясы.
А вецер гонкі, плаўна ў полі
Хвалюе жыта каласы.

Ў зялёна-сінім задуменьні,
Ў вішнёва-майскія часы
Стаяць яны, губляюць цені
на рунь маёвае красы.

Пад час ліпнёвай навальніцы
Пад сьвісты-гоман непагод,
Таполі з гольля ў крыніцы
Змываюць сум мінулых год

І доўга, часта казкі кажуць;
І чуе ветрам далячынь.
Тых казак просіньню ня зьвяжаш,
ня скінеш прошласьці ты з іх.

На межах дзедаўскіх у полі,
Што ў дол быльнёгамі ўрасьлі,
Нам кажуць казкі там таполі,
Забытай прошласьці сыны.



**Макс. Лужанін**

## Сьцелюцца, звоняць сьняжынкі

Ціха падаюць, сьцелюцца звоняць
сьняжыны
за парогам маім палыны, палыны
і ня знаю адкуль прылятаюць і гінуць
ў даль якіх берагоў ад якой стараны.

Шкода клёнаў мне! Ціхія любыя
клёны!
Вам стаяць і глядзець на сярдзіты
мароз.
Ці журыцца аб тым, што вясною
зялёнай
цалавацьмеце майскія косы бяроз?

Вы стаіце бяз слоў і бяз песень—
нямыя,
ваша радасьць цяпер гэта бель-дываны,
навот грудзі і зімой маладыя
вам ня ўспырснуць квяцістасьць
прыгожай вясны

Праўда сам я цяпер ад трывогі
стаміўся
і часамі здаецца душой заняпаў,
але ў радасьць бясконцую смутак
завіўся.
пасьля суму глыбей маладосьць і
запал.

Так далёкі ўсе, што калісьці кахалі,
ды сапраўды за што валацугу кахаць,
сьцежку роўную высьцеле ён лапухамі
і завернецца тварам к другім берагам.

Але я не шкадую і ростані клічу,
гэта пойдзе і прыдзе і пойдзе ізноў,
ці патым сумаваць, што маршчынах аблічча,
калі водарам пахкім квітнее вянок.

І пад ціхаю ласкаю стромкага клёну,
зноў прытуліцца радасьць яшчэ весялей,
бо затым і сівее ўбраньне зялёнае,
каб насеньне рассыпаць лістамі наглей.



**У досьвітак**

А цяпер зацьвітае, цьвіце, адцьвітае,
сьнегам журыцца белы маўклівы прасьцяг,
я гляджу на сьняжыны, гляджу і гадаю,
быццам белыя птушкі кудысьці ляцяць.

15 сьнежня 26 г.

* * *

Растлумач, дарагая, загадку:
Што зрабілася гэта самной,
Як вазьму залатую двухрадку
Кроў, п'яніць мне яна, як віно.
Зацьвіту разудалым разгульлем,
Ня пужай ты, зданьнямі, ноч,
І да чырвані раньня з Ганулей
Палахлівым ня скінуся сном.
Яе вочы—
гараць вугалямі,
Як твае—
закідаюць агнём...
...Ноч зьвініць і пяе канаплямі
І шапоча каханьнем гальлё...

Як твае—
яе русыя косы,
І ўсьмешка такая-ж...
твая...
А як песьню за працай колосіць
Гэта чуў я, як з ёю стаяў
Дык за што-ж?..
Дык чаму-ж, дарагая
Я зрадніўся з табою душой,
Дык чаму-ж ты,
як тая другая
У якой твае вусны знайшоў?..

**Сяргей Фаміч.**

# Малатарня

**Максім Алешнік**

I.

Сьпяшалі дамалаціць стоўп аўсу і малатарню спынілі позна. Ужо амаль што сьцямнела, як у манежы выпрагалі коні.

Уладзя выпраг свайго каня апошнім —пакуль усе выпрагалі, ён застаўся быў у гумне выцярусіць з кудлатае свае шапкі і з-за каўняра мякіну, пасьля закурваў, стоячы ў варотах. І цяпер нікога ня было апрача гаспадара гумна—Марціна. Марцін нешта яшчэ кошкаўся ў гумне, стукаў мятлішчам аб нешта дзеравянае і пустое, шумеў саломаю і моцна адхарквау пыл, што за дзень папалазіў у рот і нос.

Уладзя паволі пашоў у манеж да каня. Манеж быў адкрытым і відаць былі за плотам сьнежныя паплавы. Сьнег ляжаў на іх прымёрзлаю скарынкаю, а перад гумном быў пусты агарод. Паплавы гэтыя раней былі Марцінавы, як вокам сягануць—ляжалі яны, цягнуліся да самае рэчкі, упоперак міма ўсіх палеткаў і Уладзя падумаў: „от-бо, падла загроб быў колькі ў свае рукі!“.

Сьпешна адпрагаючы каня і выціраючы яго аўсянаю с ломаю ад поту, Уладзя слухаў, як моцна адхаркваўся і чмыхаў носам Марцін і думаў: „гэта-ж ён ліха яму, нарочна тут корпаецца, пакуль я пайду. Гэта-ж трэба—каб хто, а то сусед. Ня верыць. Замкнуў-бы гумно ды й пашоў-бы, а то трэцца нечага, як бы я тут жэрдкі гэтыя яго пабяру. Як багаты, так і скупы, так і ня верыць нікому. Няпоўнае вока, няўтхланіцца ён ніколі“.

І падумаўшы так, Уладзя гукнуў:

— Замкнуў-бы ты гумно, ды йшоў-бы ў хату, там можа жонка вячэраць чакае, а то відаць, ты тут проста без жаднае патрэбы трэшся!

— Чаму табе?!—насьмешна і моцна абазваўся з гумна Марцін.

Уладзя параздумваў трохі над тым, што як даўней, у малыя гады, гадаваліся яны разам і таварышавалі, а пасьля ўзросшы, адчыніў Марцін у горадзе нейкую краму, пабагацеўшы вярнуўся дамоў і тады ўсяму таварыству канец.

І Уладзя з нейкаю злосьцю сказаў:

— Чаго ты гэтак баішся. Чаго ты мяне пільнуеш тут.

—Які цябе д‘ябал пільнуе!

— А што-ж, я ня бачу?!

— Ну то й добра, калі бачыш. От балазе, ёсьць што пільнаваць. Другі і хацеў-бы пільнаваць, ды няма чаго.

— Ды ў цябе ёсьць што пільнаваць, я не кажу, што няма. Але-ж я малатарні твае не пацягну за сабою, ня бойся.

— Як вы ўсе, ліха вам, паразьзяўлялі горлы, на тое, што ў мяне ёсьць.

— Чаго ты ўскіпеў, дзе ты тут бачыш тыя разьзяўленыя горлы.

— Вапервых я далжон сказаць што я жыву не на бацькаўшчыне, а на дзядзькаўшчыне. Бацька мне нічога не пакінуў, я сам прыдабыў.

— Ну, то й добра.

— Пакольки дзядзька мой уміраў, і перад сьмерцю аслабеў значыць, дык хто яго мог дагледзець, як мае быць!? Хто, пытаю я цябе? Я яго дагледзеў, я яго й пахаваў! Ён у мяне пад плотам не валяўся. І калі мне дзядзька ўсё дзьвіжымае і нэдзьвіжымае апісаў, дык вам усім яно ў горле сядзіць.

— Ня чапай ты чужога горла.

— Галота.

— От глядзі, каб цябе часамі не абрэзалі. Так з палавіну зямлі і адхвацяць. От тады пасьвішчаш. Што ён там табе некалі апісаў, дык гэтыя апісы ў нас цяпер дагары нагамі.

— Дагары нагамі! А-я-яй, ах! Хто гэта цябе выўчыў так дагары нагамі ўсё ставіць. Глядзі каб сам калі дагары нагамі ня выцягнуўся, стуліўшы лыткі ўздоўж лавы...

— Уладзя абцёр каня, пазьбіраў пастронкі і рушыў дамоў. На вуліцы было цёмна і ціха. Толькі чуваць было, як недзе рыкала карова.

II

Назаўтра ўзьнялася мяцеліца і малатарні ўход ня было як пускаць—замятала манеж і як ты будзеш выкідаць на двор салому?!

Аб гэтым раніцаю, молячыся богу, і думаў Марцін. Пасярэдзіне малітвы ён раптам чухануў каля вуха і сярдзіта сказаў сам сабе:

— А каб цябе пяруны, гэтакую, значыць, работу. Якраз д‘ябал мяцеліцу ўзьняў.



— Што ты кажаш?—запыталася аднекуль жонка.

Марцін скончыў маліцца і тады ўжо адказаў жонцы:

— От ты ніколі не дасі, як сьлед богу памаліцца. Заўсёды пераб‘еш.

Пасьля падумаў і дадаў:

— Думаў за гэты тыдзень, значыць памалаціць авёс, а тут на табе. Як раз было на тыдзень і вылічыў—Уладзяў конь Юлікаў і Міхалаў, а тады няхай бы сваё малацілі. Пакуль адробяць коньмі за малатарню, дык у мяне і ярына ўся гатова.

Так ён думаючы ўсё аб гэтым пашоў у гумно выграбці з пад малатарні ўчарашні авёс.

— Ах—крактануў нехта варотамі—от дае, сьнег як з меха валіць. Адкуль яно й бярэцца.

У дзьвярах стаяў Уладзя і Юлік.

— Дзяндобры.

— Добра ‘здароўе—адказаў Марцін—от ліха на яго малаціць няма як, час ідзе й коні гуляюць. Не пашэнціла.

— Але.

— А я от выграбаю зерня.

— Ну, а што, чаму не.

Юлік і Уладзя паахкалі трохі, паскардзіліся на непагадзь і пасьля Юлік раптам падаў голас:

— Чаго мы да цябе прышлі, Марцін.

— Ну?

— Разьлічыцца хочам за работу. Заплаці нам за тое што мы табе тут з коньмі пры малатарні былі і квіт.

— А чаму вы малатарні браць ня будзеце! Што вы раздумаліся.

— Ня будзем—сказаў Уладзя—няма рахунку жаднага. Ганяй каня тут, пасьля там, а малатарні — наколькі ты тут вельмі яе дасі. Ты-ж лішне тут ня высалапіш.

— То што вы, будзеце цапамі ляпаць?

— Нашто цапамі.

Тады Уладзя заявіў:

— Значыцца пашлі мы ўчора павячэраўшы да камітэтчыкаў, ды штурханулі іх, дык яны раскатурхаўшыся рашылі—забіраць для вобчаства, значыць, навыплату ў саўхозе лішнюю малатарню. От табе і ўся музыка... Падай грошы сюды.

— Пачакай, куды сьпяшаеш. У Амэрыку-ж можа ня выяжджаеш! Памяркуемся.

— Ураз мае грошы сюды! — сказаў Уладзя. Зьвядом рахункі й дзелу канец. Годзе тут цацкацца.

* * *

Аддаўшы вечарам Уладзю, Юліку й Міхалу грошы, Марцін успамінаў як некалі ў маладыя гады ён дружыў з імі, пасьля дружба гэтая была раскідалася на ўвесь час і як праз некалькі год ішла калатня з імі за паплавы, купленыя ім у фальваркоўца, пакуль гэтыя паплавы ня былі падзелены ўсяёю вёскаю.

Трохі сярдзіты быў Марцін.

* * *

Сіні зялёнай вясны
    ў косах гульлівыя думкі:
Ўсё лятуценьні, ды сны,
    сіні зялёнай вясны.
Ў просіні з думак саткана
    коўдраю радасьць ў рады,
Золак у чырвані ранак,
    ў просіні з думак саткана.
Ў цёмным бары пералівы
    сьпевы зязюлі: „ку-ку“
Ціха хвалююцца нівы
    ў цёмным бары пералівы.
Сэрца і думкі не ладзяць—
    вецер шапоча ў лістох,
Гольля сумуюць у садзе
    сэрца і думкі неладзяць.
Сэрца парой загавора
    млявасьцю ліпкай у жылах,
Сэрца ў размаху матора,
    сэрца парой загавора...
Падымуцца сьцягі каханьня,
    А думкі... о, думкі, мае!..
Золак жартуе пад раньня,
    падымуцца сьцягі каханьня.
Сэрца і думкі ня ладзяць,
    вецер шапоча ў лістох,
Гольля сумуюць у садзе
    сэрца і думкі ня ладзяць.

**Н. Маркава**

граціў свае цікавасьці. Але на вялікі жаль, аў... праўдзе кажучы ня справіўся з ім. Большая ... апавяданьня адведзена ўспамінам Максіма аб ... загаворы за які яму прышлося сядзець у турм... гады. Але хай бы хоць гэтыя ўспаміны былі ...аўднымі, натуральнымі. Уявіце сабе: стрaшэнная ...альніца на моры, „як калыска гайдаўся карабель ...апітан загадаў спусьціць шлюпку з масьцю ...досамі ехаць на флагманскі карабель. Адплылі. ...дзяныя, вялізарныя г о р ы з шумам куляліся п... нашу лодачку“... І ў г э т ы момант загавар на ...цэра! Дальбог, дарагі аўтар не натуральна! ...б слухайце далей: ...„Важкі кулак сьвіснуў у г...зу матросу. Душа хлопец быў Васька, але абраз... ...кой ня мог сьцярпець. Кінуўся на афіцэра. Не...лькі чалавек з ім таксама. Праз д з ь в е хвіліны афіцэр ляжаў няжывы на дне шлюпкі. Задушылі ката. Потым кароткая нарада, і мы парашылі вярнуцца назад. ...Афіцэра завязаўшы ў н е к а л ь к і шынэляў, кінулі у мора...“ І гэта усё рабілася, па аўтару, у часе страшэннай навальніцы, калі крэйсэр нават куляўся з в ы с о к а й гары ў страшны ніз! Во дзе „механіка“! Аб тым, што за паўстанец быў Максім толькі і сказана, што „Максіма злавілі параненага ў бойцы з партызанамі(?) пад Жаўнаю. У тэй бойцы забіта пятнаццать палякоў“, і то сказана Бэркам, што гандлюе цукеркамі і мылам. А дзе-ж дзейнасьць партызана Максіма? Яе няма. Да сьмешнага даходзіць апісаньне аўтарам расстрэлу Максіма. Аўтар піша: ...„Людзкая грамада забіла жывым морам(!) той бок могілак, дзе гатова была яма“...(!) ...Хутка вышаў наперад з папераю тоўсты паляк і пачаў чытаць“ (прыгавар).

Дарагі аўтар! Ды ня так выконваліся палякамі прыгавары! Людзкой грамадзе аніколі не дазваляла-ся і прысутнічаць! Прыгавар ня чытаўся перад расстрэлам.

Памыляецеся, браточак! Вывад—аўтар хацеў з Максіма зрабіць сапраўднага чырвонага партызана але гэта яму, калі на проценты прыкінуць, дык неўдалося на 80 проц.

На наш погляд трэцяе на чарзе апавяданьне „Бросіня вясновая“, гэта адно са сталых апавяданьняў зборніка. Узяты з сучаснага местачковага жыцьця сюжэт—няўдалае каханьне комуністага-сябра Райвыканкому, нават нарушэньне ім партыйнай этыкі і выкарыстоўваньне свае ўлады з мэтай дамагчыся ўзаемнасьці ў Тосі—вураднікавай дачкі. У гэтым апавяданьні аўтар выявіў веданьне сучаснага мястэчка, вёскі. Сюжэт прыгожа аздоблены прыродаапісаньнем. Аднак, зноў такі—шурпатасьці ёсьць.

Апавяданьне „Пасьвянціў“ з аднаго боку і „Шлёмка-пернічнік“ з другога, яшчэ раз падкрэсліваюць аб тым, што аўтар добра ведае як быт беларускага селяніна, так і быт местачковага яўрэя. У іх такі глыбокі сэнс (хоць праўда яны зусім адрозьніваюцца адзін ад другога сваімі сюжэтамі), які сьведчыць, што ад аўтара мы ў праве чакаць, і бязумоўна будзем мець тып бытавых, надзвычайна цікавых, твораў з сапраўднага сучаснага жыцьця вёскі і мястэчка.

Пісьменьніка-бытавіка—вось каго найноўшая беларуская літаратура будзе мець у асобе Р. МУРАШКІ. Гэтаму яму дапаможа ўладаньне жывой беларускай мовай.

Кінутыя ім і прыведзеныя намі спачатку словы з апавяданьня „Бросіня вясновая“, якія маюць у сябе глыбокі зьмест—к а ж у ц ь з а г э т а.

**Астаповіч.**

## Паштовая скрынка

**Лунашу Калюгу**. „Вышлі на цаліну“—мы друкаваць ня будзем. Тэма цікава, але вы вельмі агульна да яе падышлі. З вашай манэры пісаць відаць, што ў вас ёсьць літаратурная здольнасьць. Прысылайце больш матар'ялы.

**Б. Саукову**. Расійскіх вершаў ня друкуем.

**Юрку Лявонкаму**. „Ой, чагось-ці“—ня друкуем за ўпадачны і безнадзейны настрой гэтага вершу. Рэшту—паглядзім.

**Сьвірыду Х.** „Маяк“—ня поедзе. Вы не адчулі не перажылі таго, аб чым тут пішаце. Рэшту вершаў разглядзім да наступнага нумару „Ч. Сейбіту“.

**Н. Явару.** Слаба. Сачыце за чыстатою мовы. Не ўжывайце расійскіх слоў у беларускіх вершах.

**Остыку, П. Гаю. Язьвінскаму**. Вершы друкавацца ня будуць.



Галоўлітбел № 23030 Адказны рэдактар Шукевіч-Трацьцякоў.



Няхай жыве саюз рабочых і сялян!

# ЧЫРВОНЫ СЕЙБІТ

двухтыднёвы літаратурна-мастацкі дадатак да „Беларускай Вёскі“

№ 6-7 25-га студзеня 1927 г. № 6-7



## СЕЙ, СЕЙБІТ, СЕЙ!

Міхась Чарот

Сей, Сейбіт, сей.
Зёрны разносіць вецер...
Над магіламі чорных дней
Радасьцю сонца сьвеціць

Сёньня мы ўсе у вагні
Лес так віхурыцца вецьцем...
Сьветла-бурлівыя дні
Будуць любіць нашы дзеці.

Сей, сейбіт, сей!
Мужыцкаю цьвёрдаю жменяй,
Не палохайся белых завей—
Вясною ўзойдзе насеньне.

Сёньня жыцьцё скалыхнём
Сэрца балюча... у крыві...
Мілы і ціхі, мой Нёман,
Брата на волю заві.

Сей, Сейбіт, сей!
Над дзёрнам зарослай магілай...
Ня зможа ліхі сухавей
З намі памерацца сілай.

Сёньня мы роджаны бурай
Сьпеў сонца мяне разбудзіў...
Брат Захаду, брат мой пануры,
Сьмела, сьмела ідзі!..

Сей, Сейбіт, сей!
Сей, дзе крыжы і магілы...
У сэрцы так многа надзей—
Ніколі ня буду пахілым!

Сёньня сьмяюся—ня плачу,
Зьнікае цень чорнай мяжы...
Конь мой верны адважна скача
Ў тыя дні, дзе прыгожа жыць!

## НАД ДАРАГОЙ МАГІЛАЮ.



Дукорскія земляробы над магілаю 16 дукорскіх партызан расстрэленых белапалякамі ў 1920 годзе. Бацькі, сваякі і суседзі кожны год улетку прыходзяць на гэту магілу, каб ушанаваць памяць нашых лепшых барацьбітоў.